№ 2 люты 2013 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

**… Тады магутная краіна –**
**Калі пявучы ў ёй народ.**

*Яўгенія Янішчыц*

## *У НУМАРЫ:*

# НАШЫ НАВІНЫ

21 лютага прыхільнікі беларускай мовы ўрачыста адзначылі Дзень роднай мовы. У канцэртнай зале пастаўскай школы мастацтваў па вуліцы Чырвонаармейскай адбылася літаратурна-мастацкая вечарына "Пагавары са мной на мове", у час якой гучалі беларускія прамовы, вершы, песні.

***

22 лютага група сяброў раённай суполкі ТБМ – Ігар Пракаповіч, Людміла Сяменас, Воля Лісіцкая, Наталля Пракаповіч, Стас Цыбульскі – наведала Курапольскую базавую школу, дзе выступіла перад настаўнікамі і вучнямі. На сустрэчы гучалі вершы, песні пад гітару, цікавыя прамовы, дэманстраваліся відэаролікі. Мерапрыемства прайшло ў шчырай сяброўскай атмасферы.

***

24 лютага ў касцёле святога Антонія Падуанскага ў Паставах была адпраўлена імша за беларускую мову, у якой удзельнічалі шматлікія вернікі і патрыёты роднай мовы.

***

У той жа дзень у памяшканні дзіцячай бібліятэкі ў Паставах прайшоў раённы этап VI агульнанацыянальнай дыктоўкі па беларускай мове. Праводзіўся ён па тэксце Максама Гарэцкага "Максімава зязюля", які чытала для ўдзельнікаў настаўніца беларускай мовы Аліна Латыш. Бездакорна дыктоўку напісалі бацька і дачка Дзямідкі – Генадзь і Надзея, - якія і сталі пераможцамі.

***

28 лютага на пасяджэнні ТБМ адбылася дыскусія па праблеме ўнутранай арганізацыі беларускай сям"і. Разглядаліся станоўчыя і адмоўныя бакі традыцыйнай, партнёрскай і таварыскай мадэляў.

# НАШ КАЛЯНДАР

120 гадоў таму, 18 лютага 1893 года ў в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага павету Магілёўскай губерніі нарадзіўся адзін з класікаў беларускай літаратуры празаік Максім Гарэцкі.

50 гадоў таму 22 лютага 1963 года ў в. Цівунцы нарадзіўся Зямчонак Іосіф, гісторык, педагог, краязнаўца, кандыдат навук. Скончыў Варапаеўскую СШ, гістарычны факультэт БДУ. Працаваў настаўнікам Гуцкай і Варапаеўскай школ. З 2003 г. - навуковы супрацоўнікам кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта (Польшча). Аўтар кніг: "Мястэчка пры гасцінцы", "Ваколіцы Парыжа", "Залаты пояс Пастаў", "Храмы Залатога поясу Пастаў", "Лучай", "Данілавічы" і іншых. Аўтар шматлікіх артыкулаў у розных выданнях.

90 гадоў таму, 3 сакавіка 1923 года, ў вёсцы Міхнічы нарадзіўся Жаброўскі Генрык, польскі інжынер-гідролаг, краязнаўца. Збіраў матэрыялы па гісторыі Пастаўшчыны. Напісаў кнігу "Манаграфія вёскі Міхнічы і ваколіц у Пастаўскім павеце на Віленшчыне", зрабіў картасхему горада Паставы 1939 года; знайшоў, запісаў і пераклаў на польскую мову народны лучайскі верш "Кірха". Памёр 21.4.1996 г. у г. Новы Сонч (Польшча).

50 гадоў таму, 7 сакавіка 1963 года, у в. Камаі нарадзіўся Гарбінскі Юрый, доктар філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, навуковы супрацоўнік Польскай акадэміі навук і Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. Склаў анталогію "Беларуская думка XX стагоддзя", даведнік "Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя"; укладальнік, аўтар прадмовы і каментарыяў да кнігі "Мікалай Лапіцкі: У служэньні Богу й Беларусі"(разам з В. Кіпелем). Жыве ў Варшаве.

**Аліна Латыш**

# БЕЛАРУСАЧКІ

У лютым 2013 года тры адзінаццацікласніцы Пастаўшчыны: Казаровец Юлія, Дзямідка Надзея і Пракаповіч Ганна сталі прызёрамі абласнога этапа алімпіяды па беларускай



мове. У "Пастаўскім краі" пра гэта ўжо паведамлялася, думаю, што за іх вынікі парадаваліся не толькі бацькі, настаўнікі, якія іх рыхтавалі, але таксама і іншыя пастаўчане. Таму што яны – **нашы**, узгадаваныя **нашай** зямлёй, гукамі **нашай** гаворкі і **нашых** песень. Як мы радуемся перамозе хакеістаў або футбалістаў, як мы сачылі за перамогай Юлі Жыдкай на праекце "Спяваючыя гарады", так нам дарага і перамога гэтых дзяўчатак – беларусачак. Я была ў журы адзінаццатага класа раённай алімпіяды, разумею, як цяжка даецца перамога і як многа трэба ведаць. І бачыла: яны нашмат мацнейшыя за іншых, маюць грунтоўныя веды.

**Мама Казаровец Юлі**, завуч Гуцкай СШ і настаўніца беларускай мовы, сама рыхтавала дачку. Вось што яна расказала:

—Юля з чацвёртага класа ўдзельнічала ў алімпіядах па беларускай мове. У яе былі прызавыя месцы на працягу ўсіх гадоў. У яе здольнасці да многіх прадметаў: у гэтым годзе заняла 5 месца па хіміі (1 не было), 3 – па геаграфіі, 2 – па грамадазнаўстве. Беларуская мова ёй падабаецца, яна любіць чытаць, для сябе спрабуе пісаць вершы. Ёй падабаецца вучыцца, яна шмат часу аддае вучобе. "Мне цяжка адарвацца, каб адпачыць, калі захаплюся прадметам", - бывае, кажа дачка. У вольны час яна любіць бываць з сябрамі, падарожнічаць. Мінулым летам разам з вучнямі Варапаеўскай школы ездзіла ў Германію, атрымала шмат уражанняў. Да алімпіяды рыхтаваліся і на ўроках, і пасля ўрокаў, і дома. Добра тое, што яе трэба толькі накіроўваць, далей яна працуе самастойна.

Пра выхаванне сваёй дачушкі Надзейкі шмат гаварылі яе бацькі, **Ала Іванаўна і Генадзь Русінавіч Дзямідкі:**

**—-**З самага яе маленства мы размаўлялі з дачушкай па –беларуску. Шмат ёй чыталі: і беларускія народныя казкі, і творы для дзяцей В. Віткі, Я. Коласа, Р. Барадуліна. З чатырох гадоў мы выпісвалі для яе часопіс "Вясёлка". Як яна чакала яго кожны месяц! Падабаліся і размалёўкі, і крыжаванкі, і байкі. З пяці год яна вельмі хацела пайсці ў школу.

Любоў да беларускай мовы нашай Надзейцы, напэўна, перадалася ў спадчыну ад нас. Для нас з мужам урокі беларускай мовы былі любімымі, мы да гэтага часу з удзячнасцю ўспамінаем сваіх настаўніц роднай мовы. І дома мы заўсёды размаўляем па- беларуску, не на трасянцы.

Шкада толькі, што ў нашым горадзе мала прыхільнікаў роднай мовы. Загаворыш па – беларуску, напрыклад, у краме або ў паліклініцы – на цябе касавурацца, глядзяць як на чужака. Так робіць інтэлігенцыя, тыя, хто павінен быць найбольш свядомым і разумець, які гэта скарб – родная мова.

**Тамара Мікалаеўна Захарэвіч**, настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ № 2, падрыхтавала не аднаго прызёра абласной алімпіяды. Аня Пракаповіч у яе – пятая.

—На заняткі да мяне прыходзіла некалькі вучняў, я спачатку не ведала, у каго з іх атрымаецца. Аня не філолаг, але ў яе ёсць вельмі важныя для перамогі якасці: яна ўпартая, вельмі працавітая, можа арганізаваць і спланаваць сваю падрыхтоўку. Аня дзякуючы алімпіядзе змянілася сама: стала больш упэўненай, умее лепш трымацца. Можа, не кожны з гэтых алімпіяднікаў будзе беларускамоўным, але ў іх застануцца цікавасць да мовы, прыхільнасць, трывалыя веды.

Шмат гаварылі самі ўдзельніцы, радуючы сваім маладым запалам, эрудыцыяй, ветлівасцю.

**Юля Казаровец (Гуцкая СШ)**: - Беларуская мова падабаецца найперш таму, што яна родная, яе я чула з дзяцінства. Любоў да мовы перадалася мне ў спадчыну, яна звязала мяне з бацькамі і бабулямі. На мой выбар паўплывала таксама тое, што мая школа з беларускай мовай навучання. Маю родную мову паважалі і любілі шмат выдатных людзей, пісалі на ёй геніяльныя творы. Асабліва мне падабаюцца вершы С.Грахоўскага, П. Панчанкі.

Ад усяе душы дзякую маме за выдатную падрыхтоўку, за тое, што паехала са мной на алімпіяду, была побач. (Для мяне гэта першая абласная алімпіяда).Я вельмі эмацыянальна ўсё перажывала, і каб мамы не было побач са мной, магчыма, не было б і такіх вынікаў. Я яшчэ не вызначылася, куды пастунаць, усё будзе залежыць ад вынікаў тэстаў. Мне падабаецца геаграфія і грамадазнаўства. І абавязкова на тэсціраванні буду здаваць беларускую мову. Дэвіз майго жыцця – словы С. Грахоўскага:

Жыццё пражыць – не поле перайсці. А трэба і жыццё прайсці як поле.

Каб хоць адным зярняткам узысці, а бур'яном не зарасці ніколі.

**Ганна Пракаповіч: (СШ № 2)** —У дзяцінстве мне чыталі шмат беларускіх народных казак, потым я сама чытала. Маю беларускасць выхавала вёска Крывічы, маміна малая радзіма, дзе я часта гасцявала ў бабулі. Думаю, што немалы ўплыў і маёй сям'і, і майго дзядзі, паэта Ігара Пракаповіча. Я захапляюся яго вершамі, асабліва любоўнай і пейзажнай лірыкай. Мой тата таксама піша вершы, але нікому іх не паказвае, можа напісаць віншаванне, калі яго папросяць. Аднойчы я знайшла сшытак з яго юнацкімі вершамі, але не змагла разабраць почырк. Мама мая шмат чытае па-беларуску з тых твораў, што задаюць мне.

На абласную алімпіяду я ездзіла ўжо другі раз. Там мне нават прасцей, чым на раённай, бо кожны дзень толькі адзін этап, ёсць час падрыхтавацца да наступнага.

Я вельмі дзякую сваёй настаўніцы беларускай мовы Захарэвіч Т.М. З шостага класа я вучылася ў яе, у мяне неяк само пачало атрымлівацца. Лічу, што толькі дзякуючы яе намаганням і вопыту ў мяне такія цудоўныя вынікі.

Хачу сказаць сваім равеснікам: калі ў жыцці вельмі захацець і штосьці рабіць для гэтага, то ўсё абавязкова атрымаецца. А калі толькі чакаць і марыць – нічога не будзе. Ніадкуль не зваліцца. Нездарма ж у нас кажуць: "Пад ляжачы камень вада не цячэ".

Што б я ні здавала і куды б ні паступала, мова застанецца са мной на ўсё жыццё. Яна ў нас адна родная, як маці ў дзіцяці. Каб усім размаўлялі на ёй, трэба пачаць з сябе. Не з яго, не з іх – з сябе.

**Надзея Дзямідка (СШ № 1):** — Сёлета на абласной алімпіядзе я была другі раз. Алімпіяды для мяне цікавыя не толькі

ў плане вучобы, але і знаёмствамі, культурнымі мерапрыемствамі. У нас была аглядавая экскурсія па Полацку, паказалі спектакль у полацкім Палацы культуры, мы таксама пабывалі ў Полацкім дзяржаўным універсітэце. Спадабаліся выкладчыкі з Віцебскага ўніверсітэта, якія былі ў журы. У вольны час яны праводзілі з намі сустрэчы, можна было распытаць пра вучобу, пра спецыяльнасці іх універсітэта.

Вялікі дзякуй маёй выкладчыцы Міхневіч Ліліі іосіфаўне, я займаюся ў яе з пятага класа. У нас з ёй адразу скλаліся добрыя адносіны, з'явілася ўзаемаразуменне. І я пачала хадзіць на алімпіяды. Лілія Іосіфаўна хвалявалася за мяне, тэлефанавала ў Віцебск некалькі разоў на дзень, давала парады.

Я вельмі ўдзячная таксама сваім бацькам. Мае тата з мамай з самага маленства адкрывалі мне прыгажосць роднага слова, і першая кніга, якую я сама прачытала, – "Вершы" В. Віткі. Заўсёды лёгка завучвала на памяць. І цяпер шмат чытаю беларускіх аўтараў. Мае любімыя творы: "Каласы пад сярпом тваім", "Чазенія" У. Караткевіча, "Сэрца на далоні " і "Трывожнае шчасце" І. Шамякіна, вершы А. Разанава, М. Танка.

Але насцярожыла тое, што на алімпіядзе нават некаторыя ўдзельнікі непаважліва ставіліся да роднай мовы. Толькі закончыцца конкурс – яны пераходзяць на рускую. І ў Полацку, калі мы там гулялі і размаўлялі па – беларуску, на нас паглядалі скоса. Я хачу заклікаць усіх, асабліва сваіх равеснікаў: не цурайцеся роднай мовы, чытайце больш кніжак па – беларуску. І калі не размаўляеце, дык хоць паважліва стаўцеся да яе і яе носьбітаў. Бо любоў да мовы пачынаецца з павагі да яе, нават калі і не карыстаешся ёю.

Надзя Дзямідка і Ганна Пракаповіч цяпер рыхтуюцца да рэспубліканскай алімпіяды. Потым у іх і ў Юлі Казаровец выпускныя экзамены, паступленне ў вну. Поспехаў вам і шчаслівай жыццёвай дарогі, дарагія беларусачкі!

# НАШЫ ВЫДАННІ

Пастаўская раённая арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Фрацыска Скарыны да Дня роднай мовы выдала кішэнны каляндарык на 2013 год.




Таксама выдадзены значкі "Я люблю сваю мову"





*Ігар Пракаповіч*

# СВЯТА РОДНАЙ МОВЫ

У чацвер, 21 лютага, у канцэртнай зале школы мастацтваў, што па вуліцы Чырвонаармейскай, сабраліся прыхільнікі беларускай мовы, каб разам адзначыць Міжнародны дзень роднай мовы. Увазе прысутных была прадстаўлена літаратурна-музычная кампазіцыя “Пагавары са мной на мове…”, якую падрыхтавалі супрацоўнікі дзіцячай раённай бібліятэкі сумесна з раённай суполкай Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Імпрэзу адкрыла яе ініцыятар і арганізатар Людміла Сяменас, прачытаўшы верш І. Пракаповіча “Пагавары са мной на мове”, які стаў як бы эпіграфам вечарыны. Потым на сцэну выйшлі вядучыя: сімпатычныя адзінаццацікласніцы пастаўскай гімназіі Каця Дунец і Даша Гуцалюк. Беларуская мова, аздобленая пяшчотнымі галасамі дзяўчат, гучала шчыра і пранікнёна. Цікавая інфармацыя пра беларускую мову, якую расказвалі вядучыя, арганічна дапаўнялася вершамі, выступленнямі і песнямі ўдзельнікаў імпрэзы. Прысутныя змаглі ўбачыць некалькі кароткіх відэаролікаў, адзін з якіх быў зняты адмыслова тэлекампаніяй “Паставы-TV” і ў якім сваімі думкамі пра родную мову дзяліліся пастаўскія школьнікі і студэнты ВНУ. Потым на сцэну былі запрошаны пераможцы абласной алімпіяды па беларускай мове, вучаніцы адзінаццатых класаў Ганна Пракаповіч (СШ №2), Надзея Дзямідка (СШ №1), Юлія Казаровец (Гуцкая школа). Яны атрымалі падарункі ад начальніка аддзела па справах моладзі пастаўскага райвыканкама Наталлі Субко, якая на добрай беларускай мове не толькі павіншавала дзяўчат з выдатнымі дасягненнямі, але і артыстычна прачытала некалькі беларускіх вершаў.

По запрашэнні вядучых з невялікай прамовай да ўдзельнікаў свята звярнуўся старшыня раённай суполкі ТБМ пісьменнік і настаўнік Ігар Пракаповіч, які напрыканцы свайго выступлення прачытаў уласны верш “Мы – беларусы!”

Цікавай была і музычная частка праграмы. Слухачы прыязна сустрэлі дэбютантаў “вялікай” сцэны Алену Вітко з Гуты, якая праспявала песні “Купалінка” і “Танцуй”, і Стаса Цыбульскага, які пад гітару выканаў Багдановічаву “Пагоню”. Як і заўсёды зачаравала прысутных сваім голасам вучаніца гімназіі Валерыя Пронька. У яе выкананні ўзрушана прагучала песня “Спадчына” на словы Янкі Купалы. Арыгінальнай імправізацыяй вызначалася выступленне Ірыны Лапко, якая ў стылі рэп праспявала гледачам беларускую народную песню “Чаму ж мне не пець.”



*Выступаюць К. Каравацкая і В. Сяменас*

Святочная імпрэза завяршылася на высокай мастацка-патрыятычнай ноце: дзве дзяўчынкі, вучаніцы гімназіі Каця Каравацкая і Віялета Сяменас, у прыгожых белых строях шчыра і пранікнёна прачыталі знакаміты верш Уладзіміра Караткевіча “Дзе мой край?”.

Вечарына прайшла нязмушана і пачуццёва. І вельма важна тое, што беларускія словы, як зярняты, засяваліся на палетках адкрытых душ. Зразумела, што многія з іх засохнуць, не прымуцца, счэзнуць у пыле будзённасці. Але будуць і тыя, што дадуць трывалыя парасткі і расквітнеюць. І ў гэтым будзе вялікая радасць для тых, хто ладзіў гэта свята, хто прамаўляў, чытаў вершы, спяваў. А таксама і для беларускай мовы. Для Беларусі.



*Воля Лісіцкая*

# ТВОРЧАЯ СУСТРЭЧА Ў КУРАПОЛЬСКАЙ ШКОЛЕ

Па запрашэнні настаўніцкага калектыву Курапольскай базавай школы 22 лютага група сяброў раённай суполкі грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» на чале з яе старшынёй, краязнаўцам і паэтам Ігарам Пракаповічам, прыняла ўдзел у мерапраемстве, прысвечаным Міжнароднаму дню роднай мовы. У склад "агітбрыгады" ўвайшлі творчыя асобы: Людміла Сяменас, Наталля Пракаповіч, Стас Цыбульскі, Вольга Лісіцкая.



Ва ўтульным кабінеце беларускай мовы і літаратуры, напоўненым святлом сонечных промняў і добразычлівымі ўсмешкамі, сабраліся настаўнікі і вучні гэтай невялікай вясковай школы. Арганізатар мерапрыемства, настаўніца беларускай мовы і літаратуры Зоя Генрыхаўна Рудая, шчыра прывітала удзельнікаў творчага дыялогу "Споведзь душы", падкрэсліла значнасць творчай сустрэчы словамі вядомага дзеяча беларускага нацыянальнага адраджэння, пісьменніка і паэта Францішка.Багушэвіча, якія ён напісаў у прадмове да "Дудкі беларускай": "...Наша мова для нас святая, бо яна нам ад Бога дадзеная". Зоя Генрыхаўна сказала пра неабходнасць дасканалага вывучэння сваёй роднай мовы, зберажэння нацыянальных традыцый, выказала засмучэнне станам беларускай мовы на сённяшні дзень. У заключэнне настаўніца адзначыла, што мова – адзенне душы, люстэрка жыцця і працы народа, паказчык духоўнай сталасці, і толькі шануючы мову продкаў, можна разлічваць на ўдзячнасць нашчадкаў.

Вучні – Кухальская Алёна, Краміч Анастасія, Руткоўскі Уладзіслаў, Купрыянаў Руслан – з хваляваннем і натхненнем прачыталі вершы Ігара Пракаповіча. Далей творчую эстафету ўпэўнена падхапіла Людміла Сяменас.. Пад чароўныя гукі музыкі яна прачытала вершы І. Пракаповіча, распавяла пра гісторыю святкавання Міжнароднага дня роднай мовы, прадэманстравала пазнавальныя відэаролікі беларускай тэматыкі, адзін з якіх, дарэчы, быў створаны Пастаўскім тэлебачаннем сумесна з дзіцячай бібліятэкай імя У.Дубоўкі пры ўдзеле раённай суполкі ТБМ. Вялікую цікавасць сярод дзяцей выклікала віктарына па веданні беларускай мовы. Пераможцам віктарыны Людміла ўручыла сімвалічныя падарункі.

Трэба адзначыць, што кожнага з выступаючых прысутныя слухалі з вялікай увагай і шчодра адорвалі апладысментамі. І гэта не дзіўна, бо сцэнарый мерапрыемства быў насычаным і разнастайным. Вочы вучняў свяціліся захапленнем, калі пад меладычныя акорды гітары Стас Цыбульскі выконваў песні на вершы знакамітых беларускіх паэтаў Максіма Багдановіча ("Пагоня"), Якуба Коласа ("Асадзі назад").

Настаўніца замежнай мовы Наталля Пракаповіч, якая да таго ж выкладае асновы рэлігіі ў нядзельнай царкоўнай школе, звярнула ўвагу на чысціню беларускай мовы, расказала пра сілу і моц добрага слова, прывяла цікавыя жыццёвыя прыклады і прыпавесці.

Прыемна адзначыць вялікую актыўнасць і неабыякавасць дзяцей. Пасля таго як Ігар Пракаповіч прачытаў свае вершы і расказаў пра краязнаўчую дзейнасць, якой ён займаецца разам з вучнямі на працягу 30 год, дзеці літаральна засыпалі яго пытаннямі. Сапраўды, вершы Ігара, напоўненыя жыццёвай мудрасцю, патрыятызмам, сонечнымі промнямі гумару, нікога не могуць пакінуць раўнадушным. А пабываць у краязнаўчай вандроўцы марыць шмат вучняў. Ігар Пракаповіч прадставіў свае зборнікі краязнаўчых работ, паэтычных твораў і некаторыя з іх падарыў школе.

Цёплая душэўная размова працягвалася і пасля заканчэння афіцыйнага мерапрыемства.

У валошкавы вяночак беларускасці была ўплецена яшчэ адна кветка.




*PS. Невялічкае адступленне.*

Я ўпершыню была ў Курапольскай школе. І яна ўразіла мяне цеплынёй, дамашняй утульнасцю і святлом. Святлом, якое шчодра струменілася праз вялікія вокны ў гэты сонечны перадвясновы дзень; святлом добразычлівасці, непадробнай цікавасці і шчырасці, якімі свяціліся вочы настаўнікаў і вучняў. Выкажу сваю думку. Зараз існуе тэндэнцыя да закрыцця маленькіх школ. Мне здаецца, што закрыць такую школу - значыць пагасіць святло.

А без святла вёска не зможа жыць доўгі час. Такі закон прыроды.

**Шыпшына** *на сайтах kamunikat.org і westki.info*

**Шыпшына**
*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч
Карэктар: Аліна Латыш
Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52.
Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч
*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*
*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*
*Наклад 100 асобнікаў*